# НАВІНКІ

1 - 15 сьнежня 1999 №13(21) Кошт свабодны


Калі мае **ТАТА і МАМА** **ЗАБЫВАЮЦЬ УКЛЮЧЫЦЬ СЬВЯТЛО** гэта раблю **Я**



**Нехта мусіць паклапаціцца пра тое, каб разарыць Прэзыдэнта!**





**Аказваецца, Хрыстос быў беларусам!**

стар.2

**Ельцын хутчэй жывы, чым мёртвы. Стар. 3**





**Не тармазі!** **НЯ ДАЙ САБЕ ЗЬМЕРЗНУЦЬ!**

АНТЫДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ ПА ЭНЭРГЕТЫЧНЫМ СУПРАЦІВУ

## САБАТАЖ?!

Беспрэцэдэнтная кампанія за эканомію электраэнэргіі, што разьвярнулася ў краіне, шмат кім успрымаецца як перажытак савецкай прапаганды. Апалітычна мысьліце, дарагія чытачы. Пытаньне зьберагаваньня электраэнэргіі – ахілесава пята нашага грамадзка-палітычнага парадку. Нават самыя калдырныя арыфмэтычныя падлікі паказваюць, што пры айчынных раскладах з карыснымі выкапнямі дзяржчыноўнікі вымушаныя набываць энэрганосьбіты за СКВ, каб потым прадаваць свайму электарату ў некалькі разоў таньней. Што зробіш – народ паабнасіўся: завыш энэргатарыфы і – «мэрсі боку», палітычная ляяльнасьць, якая толькі й трымаецца, што дзякуючы гэткаму электрапрыбору як тэлекропка.

Сытуацыя, як бачым, наэлектрызаваная. Дастаткова апазыцыйным ізуверам справакаваць у краіне выбух спажывецкай эўфарыі або сабатажу – і дзяржаўная казна вылятае ў трубу, як дым. Ніякага тайнага бацькавага бюджэту ня хопіць, каб кампэнсаваць апэтыты насельніцтва.

Замуціць жа такую завируху прасьцей простага – апазыцыі дастаткова зьвярнуцца да сваіх сымпатыкаў не зачыняць форткі, пакідаць сьвятло ў прыхожых, ламаць зьліўныя бачкі ў службовых эМ-Жо і г.д. Нарэшце, можна падбіць НТВ на штодзённую шматгадзінавую трансляцыю працягу сьлезацечнай «Санта-Барбары». Паверце, добрую палову краіны немагчыма будзе й за вушы адцягнуць ад экрану. А ў той час лічыльнік будзе сабе круціцца, намотваючы мэгакіляваты...

На стар.4


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5000 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 30.11.1999 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2050

## ВАЙСКОВЫЯ АПЭРАЦЫІ
### фэдэральных сілаў па ліквідацыі гуманітарнай катастрофы ў Чачэніі



















*Павал Севярынец – няшчасная ахвяра таталітарнай сэкты*

# Хрыстос быў беларусам!

Варвашэні-8 з офісу палітычнай партыі патроху ператвараецца ў малельны дом. Калі вы ня верыце – паверце! Як гэта зрабіў Павал Севярынец. Натхняльнік натрэніраваных баевікоў і пясьняр гвалту, Павал цяпер ні на хвіліну не расстаецца са Сьвятым Пісаньнем. А днямі ён забамбардзіраваў усе СМІ і палітычныя партыі прэс-рэлізам «Маладога Фронту» з заклікам неадкладна пакаяцца й прыняць Хрыста сваім збавіцелем. Зацікавіўшыся такім неверагодным пераменам Севярынца, мы вырашылі ўзяць у яго вычэрпнае інтэрвію. Завітаўшы ва ўправу БНФ у прызначаны час, мы знайшлі Паўла ў малітве і посьце.

**«Н»: Прывітаньне, Павал!**

**П.С.:** Слава Ісусу Хрысту!

**«Н»: Скажы, Павал, зараз усе ўражаныя пераменамі ў тваім жыцьці. Што так паўплывала на цябе?**

**П.С.:** Ісьцінна кажу я вам! Падчас «Маршу Свабоды» я схапіў быў камень – і раптам на маіх руках зьявіліся стэгматы. Мне явілася сьвятая Еўфрасіньня й сказала: «Што ты робіш, Павал?! Ці гэтаму навучаў цябе Госпад? Адкінь свой камень і пакайся! Усе нашыя спробы ўсталяваць дэмакратыю й рынак, ажыцьцявіць нацыянальнае Адраджэньне бяз Бога, без духоўнага падмурку ня маюць пэрспэктывы!» І я ўвераваў, раздаў сваю скудную маёмасьць бедным і прысьвяціў сваё жыцьцё служэньню Богу.

> «...Абрам нарадзіў Ісака, Ісак нарадзіў Абрама, Абрам нарадзіў Зянона, ад Зянона нарадзіўся Павал, якога празвалі Севярынец...»

**«Н»: Якім чынам твая вера стасуецца зь мітынгамі і дэманстрацыямі, з кіданьнем камянёў і бойкай зь мянтамі!..**

**П.С.:** Пакіньце злое! Гэта ад д'ябла! У Бібліі ясна сказана: «Калі цябе ўдараць па правым плячы дубінкай, падстаў левае пад бот!» Таму трэба пакаяцца, трэба жыць паводле Эвангельля, трэба маліцца за ўсю Беларусь, за ўсіх беларусаў, у тым ліку за Аляксандра Лукашэнку, бо ён ваісьціну памазаны Богам на сваё прэзыдэнцтва.



**«Н»: А як жа натрэніраваныя баевікі «Маладога Фронту»? Куды ж іх цяпер?**

**П.С.:** Я сказаў Скочку: «Пакінь стрэльбу сваю і ідзі за мной!» І пакінуў Скочка стрэльбу, і пайшоў за мной, і павёў за сабой войска сваё. Цяпер мы праводзім масавую эвангелізацыю ў «Маладым Фронце». Па чыстых чацьверах ідуць чытаньні Бібліі, хрышчэньне і адпушчэньне грахоў. Усіх грэшнікаў і паганцаў вычышчаем з Фронту.

**«Н»: Якім чынам ты можаш далей увязваць сваю багаслоўскую дзейнасьць са справай барацьбы за нацыянальную незалежнасьць?**

**П.С.:** А тут нічога дзіўнага няма. Хрыстос жа быў беларусам. Беларусь мае ўнікальна-хрысьціянскую сымболіку: бел-чырвона-белы сьцяг – сьцяг Хрыста, белае палатно з крывёю ўкрыжаванага Ісуса; герб «Пагоня» – гэта Хрыстос, які ўяжджае ў Ерусалім на асьле зь вярбой у руцэ. Проста потым народ вычварыў наш герб на паганскі кшталт.

**«Н»: Дзякуй, брат, за размову.**

**П.С.:** Госпад з вамі! Амэн!

На заканчэньне заўважым, што ў Паўла зьяўляецца ўсё больш і больш прыхільнікаў і вучняў, якія ходзяць за ім натоўпам. Замест звыклага «Жыве Беларусь!» ці «Луку на муку» ўсё часьцей на сьценах можна прачытаць «Слава Богу!». А нядаўна Севярынец учыніў разгром гандлю кніжкамі й касэтамі на Ўправе БНФ, дзе дэманстратыўна раструшчыў касэту DEVIATION, якая ўтрымлівае «бязбожныя тэксты». Што ж, Бог яму судзьдзя ●

**Ігнат Лаёла**

## ПравЕр сваЕ вЕды



### Урок 1. Суб'ект фэдэрацыі – Чачэнія

**Заданьне для самастойнай працы**

1. Пазначце крыжыкам чырвонага колеру населеныя пункты, якія бамбілі, зялёнага колеру – якія здаліся самі, чорнага колеру – якіх больш няма.
2. Пакажыце стрэлкамі шляхі міграцыі чачэнскіх бежанцаў на месцы зімовак у восеньска-зімовы пэрыяд.
3. Пакажыце на мапе памятныя месцы, зьвязаныя з імёнамі Чарнамырдзіна, груп «Машина Времени», ДДТ і «Коррозия металла».
4. Пазначце на мапе лінію нафтаправоду Баку-Наварасійск і пакажыце месцы «левага» падключэньня.
5. Падпішыце прылягаючыя дзяржавы (Грузія, Азэрбайджан, Ічкерыя).
6. Пакажыце мінныя палі: сінім – створаныя фэдэраламі супраць баевікоў; зялёным – створаныя баевікамі супраць фэдэралаў; чырвоным – створаныя мясцовым насельніцтвам супраць баевікоў і фэдэралаў.
7. Пазначце зоны кампактнага пражываньня перамешчаных асобаў.
8. Зарысуйце чырвоным колерам тэрыторыю, куды не пускаюць наглядальнікаў АБСЭ.

## 10 Божых запаведзяў
*(паводле новаапостала Паўла)*

Прэзыдэнт ёсьць агульнаабраны. Няма іншага Прэзыдэнта акрамя яго

Не створы сабе іншага Прэзыдэнта ані Вярхоўнага Савету

Ня ўзгадвай імя Прэзыдэнта дарма

Памятай кожны чацьвер зьбірацца

Шануй Бацьку свайго і Бацьку ягонага

Ня біся зь мянтамі

Не прылукадзейнічай

Не крадзі кніжак на Ўправе

Ня сьведчы ложна ў Пракуратуры

Не пажадай гранта бліжняга свайго

# Ельцын хутчэй жывы, чым мёртвы

ТМО №1 Форма №095/У

Справка № 386

о временной нетрудоспособности студента, учащегося техникума, профессионально-технического училища, о болезни, карантине и прочих причинах отсутствия ребенка, посещающего школу, детское дошкольное учреждение, Президента РФ

нужное подчеркнуть

Дата выдачи 26 ноября 1999 г.

Студенту, учащемуся, ребенку, посещающему дошкольное учреждение, Президенту РФ (нужное подчеркнуть)

название учебного заведения, дошкольного

Кремль

учреждения

Фамилия, имя, отчество Ельцин Борис Николаевич

Такую вось ліпавую даведку з трыма цёркамі змастрачыў сабе Ельцын, каб закасіць ад падпісаньня саюзнага дагавору. Хітро, ды не разумна!

Быццам як ведаў, што доўгачаканае падпісаньне саюзнай дамовы абламаецца. У ноч напярэдадні 25 лістападу сьніліся абодва Прэзыдэнты. Такія рэспэктабэльныя, адухоўленыя, поўныя гістарычнай адказнасьці за лёс славянскай арцелі. Прыйшлі, абнюхалі адзін аднога, нічога не сказалі і пайшлі. Здаровыя такія Прэзыдэнты.

Прачнуўся, паглядзеў соньнік – да чарговай п'янкі. А ОРТ ужо зранку гнаў, што Ельцын так аббацыліўся, што ня можа нават рукой паварушыць, каб крыжык пад дамовай паставіць. «Брахня!» – адзінадушна канстатуюць простыя грамадзяне, слухаючы мэдычныя зводкі з Крамля. Народ сам дапетрыў, што да чаго. У чэргах, у транспарце ці на працоўным месцы просты люд чэша языкі, высоўваючы свае вэрсіі ельцынскіх адмазак. Прапануем аналіз найбольш папулярных вэрсіяў непадпісаньня дамовы, што бытуюць у гушчы народных масаў. Як кажуць Vox populi – vox Dei.

## Варыянт 1. «Сымуляцыя».

Пра гэта ў прыватнасьці пішуць нават *Известия*: калі трэба, абсалютна ніякі Ельцын брэйк-данс на перадвыбарчых мітынгах гарцаваў, а тут, панімаіш, ад саплей расклеіўся.

Відавочна, што Мікалаіч проста чалавек шырокай славянскай душы, які ў свой час ня змог адмовіць сябру, калі той заікнуўся аб нейкім Саюзе: «Сань, што мы не карыша штоль. Бяры шапку Манамаха! Давай за Саюз! Ну, дай я цябе пацалую». Зранку, калі Ельцын прачнуўся, у яго ныла ўсё цела, у роце рыпеў жудасны сушняк, а ў галаве царыла поўная непанімалка, пра якую такую саюзную дамову пішуць газэты. Калі яму прыгадалі падрабязнасьці начной размовы, ён схапіўся за хворую галаву, аднак было ўжо позна. Прыйшлося філоніць з падпісаньнем дамовы да апошняга дня.

Калі ж надыйшоў тэрмін падпісаньня, Ельцын проста пайшоў да знаёмага тэрапэўта з КЦБ, праставіў каму трэба флянец і ўзяў даведку, што «Ельцын Б.Н. вызваляецца ад наведваньня працэдураў падпісаньня саюзных дамоваў да 12.12.1999».

Самае крыўднае, што беларускі бок усё гэта праглынуў. Знайшлі адмазку, каб дынаміць заснаваньне Саюзу – няма подпісу Ельцына. Хто з нас у дзяцінстве не падрабляў аўтографы бацькоў, падпісваючы за іх дзёньнікі. І Лукашэнку ня трэба было тармазіць. Забег бы ў пад'езд і, каб суседзі ня бачылі, падмахнуў бы пад дагаворам нейкую закаручку за Борку. Ніхто і слова не сказаў бы. А цяпер вось чакай, калі Ельцына адрамантуюць.

## Варыянт 2. «Ломка».

Увогуле справа тут нячыстая. Падчас стамбульскага гадзюшніку Ельцын скакаў, як мячык, дэманструючы бязьмежныя магчымасьці фэдэральнай мэдыцыны. На старонках *Мегаполис-Экспресс* нарыкі нават адкрылі шырокую дыскусію, ад якого тавару Ельцын ловіць такі «прыход» на берагах Басфору. У Турцыі Ельцын сапраўды іскрыўся: бугром абламаў рогі Клінтану, з агеньчыкам наехаў на ўвесь ЭС – і раптам, прыбыўшы ў Маскву, струхлявіўся ад нейкага ОРЗ. Можна меркаваць, што ў прэзыдэнта скончыўся «караблік», і Ельцын аддаў сябе на закланьне ўрачам.

Прыём вядомы на тарчковых «упісках» з часоў першай опіюмнай вайны 1840-1844. Калі ў цябе перабоі з грасам, ня трэба біцца з галяку скварэшнікам аб батарэю. Проста лягай дабравольна ў лякарню, дзе добрыя айбаліты дапамогуць табе перабіць ломку транкамі ды іншымі калёсамі. Пакуль будзеш валяцца, твой дылер прыгоніць з Турцыі новую партыю лекаў, і ўсё стане на свае месцы.

Таму, як толькі наш «хворы» раскумарыцца дозай стамбульскага зельля, трэба чакаць прыходу інтэграцыйнай актыўнасьці.

## Варыянт 3. «Біялягічная дывэрсія».

Мы, відавочна, маем справу зь біялягічным мікробам, што падазрона своечасова для ворагаў саюзу трапіў у паслаблены арганізм Барыса Мікалаевіча. У памяць адразу прыходзіць прысутнасьць нашых апазыцыйных рэцыдывістаў на стамбульскай цягамоціне. Яны ж там у адным памяшканьні зь Ельцынам пра палітыку кулікалі і адным паветрам дыхалі. А падчас перапынку, як піша *СБ* (а яна фігню гнаць ня будзе), атмасфэра была такой жа панібрацкай, як пад гарадзкой елкай на Новы год. Пагадзіцеся, умовы ідэальныя, каб атруціць лідэра вялікай дзяржавы.

У перапынку нейкі Лябедзька дзеля пушчага форсу намыльваецца засьвяціцца зь нейкім крутым лосем, каб потым панты ў *Народнай Волі* пакідаць. Паколькі Клінтан быў ужо заняты, лібэрал адфільтраваў Ельцына, схапіў яго за граблюкі і, дыхаючы яму ў твар, стаў ламаць моўна-языкавы бар'ер.

Вось тут і пачынаецца кіно. Нагадаем, што гэты Лябедзька прыпёр у Стамбул, што называецца, прамічком з акрэсьцінскіх нараў, куды трапіў за загул 17 кастрычніка. А на Акресьціна такія бамжы прыпухаюць, што падхапіць нейкую заразу нашмат прасьцей, чым тратуары на булыжнікі ламаць. Потым «Прывітаньне зь Менску» прытаранілі ў Стамбул, дзе й абкаталі яе на сусьветных палітыках, уключаючы небараку Ельцына.

Калі прытрымлівацца тэорыі Ламбразо аб біялягічнай дэтэрмінаванасьці злачынстваў, то можна заключыць, што апазыцыйнасьць (як палітычная форма злачыннасьці) – гэта ня проста перакананьні, а набор у арганізьме малекулярна-генэтычных кодаў. Пры кантактах спэцыфічныя апазыцыйныя бактэрыі, пранікаючы ў нармальныя славянскія арганізмы, выклікаюць працэсы хваробы.

Вось беларускія апазыцыйныя бакланы і заразілі Ельцына сваімі дэмакратычнымі глістамі. Запрашай іх пасьля гэтага ў паважныя цывілізаваныя тусоўкі, дык потым сораму не абярэсься ●

**Зьміцер Якушкін**









Wanted! Гэтак выглядаюць пад мікраскопам дэмакратычныя пнэўмакокі і стрэптакокі, здольныя выклікаць зрыў падпісаньняў любых праславянскіх дагавораў. (Фотаробат складзены са словаў пацярпелага)

# Фанатаў сасваталі

## *Футбольныя хуліганы забясьпечваюць палітыкам думскія мандаты*

Выбары ў Дзяржаўную Думу мабілізавалі ўсе колькі-небудзь актыўныя грамадзкія сілы Расеі. Пад бярданку палітычных варацілаў пастаўленыя бамжы, студэнткі, хатнія матроны. І толькі кандыдаты-дэлетанты маглі прайсьці міма такой сацыяльна-заклапочанай групы насельніцтва як футбольныя фанаты. Hools'ам, неаддзельнымі атрыбутамі якіх ёсьць лужонае хайло і пудовыя кулакі, проста віламі на раду напісана быць палітычнымі прапагандыстамі. У імгненьне вока стайкі фанатаў былі засватаныя партыйнымі жаніхамі зь вялікім калымам. Гэтак «Отечество – Вся Россия» падпісала пад сябе «мяса» (гэтак называюць спартакаўцаў). Камуністы – «коней» (тарсіда ЦСКА), «Яблоко» – «бамжоў» (фаны ленінградзкага «Зенита»), Шайгу – «мусароў» (Дынама) і г.д.

Фанаты адпаведнай каманды паводле старой завядзёнкі бічуюць на выездах разам з сваім кандыдатам. Па прыбыцьці ў іншы горад прама на вакзале іх ужо чакаюць супортэры варожага кандыдата. Яны наравяць адхрыстосіць канкурэнтаў прама на пэроне і давесьці такім чынам фізычную слабасьць іхнай палітычнай праграмы.

Махач прыпыняе міліцыя, якая суправаджае паліттурыстаў да канфэрэнц-залі, дзе прызначаныя палітычныя дэбаты. Тут іх ізалююць у спэцыяльных сэктарах. Тым часам на сцэне зьяўляюцца кандыдаты ад варожых блёкаў. У залі выбух енкаў, пэтардаў, барабанная кананада і гучныя аплядысмэнты. Фанаты заводзяць свае крычалкі:

*«А мы выпили и верим в наших ребят,*
*«Правые Силы» сегодня победят!*
*Отсоси у Хакамады,*
*Хей, хей...»*

У адказ зь іншага кутка партэра нясецца зычны роў ворагаў:

*«Девочка Маша? Не-е-ет!*
*Манная каша? Не-е-ет!*
*Телефонная будка? Не-е-ет!*
*Жирик проститутка? Не-е-ет!*
*Камдесю, который дает? Не-е-ет!*
*Гайдар, который берет? Не-е-ет!*
*Ельцын, у которого болит? Не-е-ет!*
*Примаков, который победит? Да-а-а!*
*Оле-оле-оле-оле, Отечество – Отечество!»*

На сцэне пачынаюцца палітычныя дэбаты. Фаны ўважліва сочаць за разьвіцьцём дыскусіі. Самі актыўна прымаюць удзел, скандуючы падрыхтаваныя кампраматы: *«Коммунисты – молодцы, тащат по полу концы!»* або *«Как в пятке заноза, как в попе тоска, торчит в избирательном списке предвыборный блок Лужка»*. Сочная рэпліка з боку іхнага кандыдата, аргумэнт выклікае на трыбунах эфэкт забітага голу. Сэктар лікуе.

*«Жирик – это скорость, Жирик – это класс! Жирик побеждает и радует нас!»* Эмоцыі б'юць праз прававы край. У справу ідуць плястыкавыя крэслы і тайна пранесеныя ў залю ланцугі і кастэты. АМАП прафэсійна вінціць разбэшчаных фанатаў «Правого Дела». Чуецца: *«Свободу! Свободу болельщикам Немцова!!!»*

Напрыканцы сшыбкі з фанатамі ад іншага палітычнага блёку ахвяры правядуць ноч у КПЗ, а заўтра яны пададуцца да іншых палітычных футбалістаў. Усе задаволеныя – на гульні, як на гульні ●

**Алік Шустэр**

*«Сабака любіць сала, варона любіць сыр, а я люблю Нямцова, Чубайс – мой кумір!» Лужонае хайло, натрэніраванае на стадыёнах, і пудовыя кулакі – ударная сіла перадвыбарчай гонкі ў Расеі*

# Ланцуг няволі

## Спроба запхнуць сьвечку ў сраку рэжыму скончылася трагедыяй

Конгеніяльная ідэя дэмакратычных камбінатараў вывесьці 24 лістапада сваіх прыхільнікаў на праспэкт са сьвечкамі выклікала ў айцоў гораду прыступы жахлівай мігрэні. Іхны гемарой лёгка зразумець: агонь ад парафінавых апалкаў, якія зьбіраліся трымаць у руках апазыцыйныя камбатанты, мог кожную хвіліну перакінуцца на прахожых зявакаў, а потым на суседнія будынкі. Яшчэ б троху, і ад Менску засталіся б толькі тлеючыя галавешкі і руіны – жывы помнік абыякавага стаўленьня дэмакратаў да элемэнтарных патрабаваньняў пажарнай бясьпекі. Таму ня дзіўна, што ўлады загналі ў цэнтар гораду цьму тараканьню пажарнікаў (якіх дэмакраты-падпальшчыкі прынялі за АМАП). Дзякуй богу, усё скончылася без інцыдэнтаў. Аднак найбольш буйныя апазыцыйныя галовы, якім было мала гадзінавага кукаваньня на марозе, не хацелі разыходзіцца проста так, без дэбошу й мардабою. Яны вырашылі прыхапіць сьвечкі з сабою да хаты. «Мы будзем усю ноч выражаць свой гучны пратэст супраць узурпатарскага рэжыму», – сказалі яны на разьвітаньне рэпартэрам радыё «Свабода».

Для некаторых зь іх гэта былі іхныя апошнія словы. Чым канкрэтна пагражае жыцьцю і здароўю палітычна няўстойлівых грамадзянаў ініцыятыва дзяжурыць па начах з кадзілам ілюструе лёс студэнта В.



Маладыя экзальтаваныя падлеткі гатовыя легчы ў труну за свае антыэнэргетычныя ідэалы

Праз паўгадзіны наш герой, напоўнены гордасьцю за сваю будучую гераічную місію, дабраўся да роднага інтэрнату, а празь яшчэ нейкі час кляваў пад коўдрай носам са сьвечкай у руцэ. У мяртвецкім сьне яму грэзілася няскладная Алсу. Ад яе несла цыгаркамі, але справу сваю яна ведала, жарсна, горача і блудліва надкусываючы хлопца за эрагенныя зоны. Між тым, на яву полымя ад сьвечкі лізала прасьціну і ляніва падпаўзала да тэлека. Выбух – і перад ашалелымі вачыма В. замільгалі абвугленыя фрагмэнты ягонай уласнай тушкі, якая разьляталася па крывой траекторыі ў розныя бакі пакою. Зьбіраць іх прыйшлося ўжо сакурсьнікам-суседзям, якія пры гэтым перш за ўсё не пагнушаліся зьесьці перадачу, якую нябожчыку перадалі напярэдадні з дому.

Падобны выпадак адбыўся й з другаклясьнікам П. Ягоныя бацькі ўвогуле не пусьцілі П. на сумнеўную акцыю. Узрушаны падлетак абставіўся сотняй сьвечак і падпаліў іх. Каля абгарэлага трупу П. бацькі знайшлі перадсьмяротную запіску: «У маёй сьмерці прашу вініць Л. Жыве Беларусь!»

Колькі яшчэ гэтыя нацыяналістычныя фанатыкі-вогнепаклоньнікі будуць тэрарызаваць нашае грамадзтва, шантажуючы нас самаспаленьнем – пытаньне ●

**Заратустра**

# Сабатаж?!

СА СТАР.1

*Апазыцыя працягвае супрацiў. На гэты раз энэргетычны. Антызьберагальная прапаганда наступае.*

На жаль, змагацца з такімі формамі антыўрадавай дывэрсіі практычна немагчыма.

Як прыклад: кожную зіму ў інтэрнатах БДУ опэратрады праводзяць зачысткі на аматараў электраплітак і абагравалак, аднак апошнім хоцьбы хны. Як песьціліся ля абагравальнікаў, так і песьцяцца, як рабілі сабе гарбату з дапамогай кіпяцільнікаў, так і робяць. Паколькі дзяржаве ў доўгай гістарычнай пэрспэктыве фінансава ўнапругу падтрымліваць нізкія кошты на энэрганосьбіты, трэба шукаць радыкальнае выйсьце зь сёньняшняга нялёгкага становішча. Гаворка ідзе пра навязваньне электарату новых аксыялягічных установак, якія сьцьвярджаюць пафігістычны падыход да абагравальнікаў, кіпяцільнікаў, адным словам да ўсяго, што пажырае каштоўную электраэнэргію.

У сувязі з гэтым сёньня высьпела вострая неабходнасьць татальна прапагандаваць спадчыну экалягічных дагматыкаў кшталту Махатмы Гандзі або Парфірыя Іванова. Напрыклад, маніфэст апошняга «Дзетка» заклікае абагравацца холадам і падтрымліваць аптымістычны жыцьцёвы тонус голадам. Сам Парфірый Іваноў нават у мароз шчыгаляў у адных паліняльных бэрмудах і ўмудраўся галадаваць 200 дзён у годзе. Як Вы здагадваецеся, памёр ён абсалютна здаровым.

Залішне казаць, што лямпачку Ільіча ён меў толькі для інтэр'еру, а на палітыку клаў. Вось Вам – дастойны прыклад грамадзяніна новай фармацыі.

Такія людзі не залупаліся б на нястачу цяпла ці гарачай вады. Вось дзе б адкрылася сапраўдная залатая жыла энэргетычнай эканоміі!

Ударым закаленьнем і абліваньнем па спажывецкіх стэрэатыпах Захаду! ●

ЭНЭРГЕТЫЧНЫЯ ВОЙНЫ

ВІРТУАЛЬНАЯ ПАГРОЗА

ЭПІЗОД 1

Прывітаньне, хлопчыкі і дзяўчынкі. Я самы эканомны ў галяктыцы Паца-Ваца

РАСХОД ПАЛІВА

РАСХОД ЭНЭРГІІ

На вашай плянэце зафіксаваны вялікі перарасход электраэнэргіі.

Я прыбыў сюды, каб змагацца за эканомію элецтрычнасьці, цяпла... і вады!

Штодзённа вы расходуеце да 20 тысячаў літраў вады. Гэта пры тым, што дзяржава выдаткоўвае сродкі на яе ачыстку і падачу ў вашыя ўтульныя кватэры!

Я ліквідую ўсе вашыя энэргетычныя праблемы. Правядзем невялічкі ўрок эканоміі цяпла

McDonald's

# Вахабізм перамагае

## Ісламскі фундамэнталізм набывае шырокую папулярнасьць у жыхароў Нечарназем'я

У цэнтар гораду ўступаюць барадатыя хмыры, прыкінутыя ў камуфляжныя шмоткі. Насустрач з кветкамі сьцякаецца стары й малы. Баевікі паважна займаюць гарадзкія канторы й фільтруюць фэдэралаў. Праз колькі хвілінаў над будынкам адміністрацыі ўздымаецца зялёны сьцяг вахабізму. Экзальтаваны натоўп псыхуе ад шчасьця, камэнтуючы падзею буйнымі аплядысмэнтамі й лёзунгам «Алах акбар».

Апісаная сцэна – не сабантуй чачэнскіх басурманаў на якім-небудзь дагестанскім хутары. Усё гэта адбываецца на вуліцах Мухасранску, райцэнтру расейскага Нечарназем'я. Прычым захоп населенага пункту маджахедамі адбываецца ў поўнай субардынацыі зь мясцовымі ўладамі. Сытуацыю камэнтуе мэр Мухасранску Павал Няўзораў: «На такі арыгінальны крок нас падштурхнуў прыклад Гудэрмесу. Гэтае мястэчка, лежбішча палявога аўтарытэта Радуева, пасьля захопу фэдэраламі ператварылася ў абразцовы горад эпохі разьвітага сацыялізму. Зараз у Гудэрмесе, калі ласка: газ, вада, сьвятло, ня кажучы ўжо пра рэгулярныя выплаты заробкаў і пэнсіяў. А ў нас у Мухасранску як не было сьвятла з газам, так і няма. Заробкі апошні раз выплочвалі перад апошнімі выбарамі прэзыдэнта Расеі.

Мы таксама вырашылі прывіць у сябе гудэрмескі досьвед. Пагадзіцеся, каб наладзіць прыстойнае жыцьцё вахабіцтва куды дзейсьней, чым каскамі па асфальту стукаць або на рэйках месяцамі загараць. На жаль, у нашым кліматычным поясе вахабіты не размнажаюцца. Таму на ўзроўні гарадзкіх уладаў мы актыўна песьцім разьвіцьцё ў раёне вахабіцкага руху – адкрылі пры школах вахабіцкія клясы, правялі конкурс дзіцячага малюнку «Герой Басаеў», на базе клюбаў ДОССАФ стварылі дружыны ісламскіх баевікоў і парадніліся з Аргунам.

Сёньня, як бачыце, нарэшце абвесьцілі ў раёне ісламскую дзяржаву на прынцыпах фундамэнтальнага шарыяту. Цяпер чакаем адпаведнай рэакцыі з цэнтру. Маем надзею, што хутка на Мухасранск рушыцца аб'яднаная групоўка МА і МУС, каб пачаць з намі перамовы. Мы, натуральна, здадзімся, каб у горад прыйшлі газ, вада, заробкі і іншыя элемэнты нармальнага жыцьця. Хай пачуе Алах нашыя малітвы!»

І гэта не адзіны выпадак ісламскага фундамэнталізму ў расейскіх е..нях (чытай, рэгіёнах – **рэд.**). Вахабіцкая зараза ўжо пачала свой трыюмфальны марш па Расеі. Наступны крок за Вамі, спадар Пуцін ●

**Іван Яндарбіеў**



Нарэшце замест звыклай курнай хаты жыхары Гудэрмесу атрымалі керасінавыя «буржуйкі»

## ФАКТЫ

### Чыгір выйшаў...

Вызваленьне з турмы Міхаіла Чыгіра не абяцала нічога добрага для супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Як высьветлілася, было чаго баяцца. Мяркуйце самі.

За няпоўны тыдзень, які былы прэм'ер разгульвае на волі, у Менску адбыліся 34 крадзяжы, 21 рабаваньні, 19 згвалтаваньняў непаўнагадовых, 4 забойствы і 7 пераходаў вуліцы ў недазволеным месцы.

Разам з тым, павялічыліся паказчыкі перарасходу вады, цяпла і электрычнасьці ў 6 раёнах сталіцы.

Ня трэба доўга тлумачыць, адкуль растуць рогі гэтай антысацыяльнай тэндэнцыі.

А што ж будзе далей, калі з кічы прыдуць Клімаў, Кудзінаў і Ко.

А калі яшчэ з-за кардону прыпруцца Пупейка ды Пузікаў, то нашае жыцьцё ператварыцца ў бясканцовы сэрыял «Закон і парадак»

# Матчына гора

## Немаўля сталася ахвярай энэргазьберагяньня



*За гэты год у вагні загінула каля 300 чалавек. Эканомім?*

Гэты брутальны выпадак адбыўся ў Заводзкім раёне сталіцы ў кватэры дэпутата Нацыянальнага сходу N. Галавы сям'і ў тую ноч не было дома: ён працаваў у начную зьмену. Ніхто ня мог ведаць, што ўначы раптам адключаць ацяпленьне, і сырое паўпадвальнае памяшканьне, у якім юцілася жонка і трохмесячны сын сьціплага народнага выбраньніка, хутка ператварыцца ў маразільную камэру. Увечары маці, як і заўсёды, паклала ў калыску немаўлятка і, бо стары тэлевізар «Рэкорд» ужо даўно сапсаваўся, рана лягла спаць. Прачнулася жанчына ад страшэннага холаду і з жахам кінулася да малога: у калысцы ляжала сьсінелае цельца і працягвала да матулі акачанелыя ручкі. Жалкае рызьзё, у якое кутталі дзіця, ня выратавала ад марозу, тым больш, што тэмпэратура ў хаце на той момант была 20 градусаў ніжэй за нуль.

Нядоўга рыдала маці над скукожаным трупікам свайго адзінага дзіцяці: жанчына вырашыла адпомсьціць за парушанае жаночае шчасьце. Звар'яцелая ад гора кабета схапіла банку з керасінам, якім увечары запраўлялі лямпу, і кінулася на вуліцу. У шокавай гарачцы маці абліла керасінам будынак, у якім зьмяшчаўся ЖЭС, і падпаліла яго, а потым з крыкам «Хай усім будзе цёпла!» сама кінулася ў полымя.

Калі пажарныя здолелі пагасіць агонь, на папялішчы яны знайшлі аскепкі водачных бутэлек і горку вугалькоў, у якой жыхары дому апазналі свайго запечанага ўпраўдома. Упраўдом у той ракавы дзень так стаміўся, што не пайшоў дахаты і застаўся начаваць на працоўным месцы. Для яго гэта стала сьмяротнай памылкай. Наіўная жанчына, хіба ў яе горы быў вінаваты ўпраўдом? Прычына гэтай і падобных да яе трагедыяў крыецца ў сацыяльных хваробах нашага грамадзтва: у недаверы грамадзянаў да дзяржаўнага апарату, залішнім індывідуалізьме і спадзяваньні людзей толькі на свае сілы. Праблемы з энэрганосьбітамі не пад сілу вырашыць такім забітым і непісьменным людзям як дэпутат N. Але ёсьць яшчэ ў нас крэпкая дзяржаўная ўлада, і ёсьць, дзякуй Богу, такая арганізацыя як Мінэнэрга, якая адным сваім загадам можа скончыць народныя пакуты ●

**Алесь Брудзіла**























«Не забывайце ж мовы нашай, каб ня ўмёрлі!..» Ф.Багушэвіч

# Ґвалт над МАТчынай мовай




Вось так недзе ў Пэнтагоне ўяўляюць сабе беларускую сямейную ідылію

Колькі ўжо разоў за нашую шматпакутную гісторыю нам прыходзілася сутыкацца з уродамі – недабразычліўцамі, якія намагаліся адабраць у нас нашую мову, ператварыць нас у маўклівае быдла. То расейскі царызм вымушаў беларускага мужыка окаць і рекаць, то польскія паны зьдзекваліся з нас, калі пшэкалі неўпапад. ..Уй! Родны язык продкаў выжыў, узбудзіўся й буйна ўскаласіў.

І вось Мова, усмоктаная намі з малаком маці, зноў у небясьпецы. На гэты раз крыжовым паходам супраць мовы Купалы й Браніслава Тарашкевіча пайшлі нацыяналісты-перараджэнцы: у выдавецтве «Радавая Беларусь» рыхтуецца да выхаду брашура «Як правільна пасылаць на х.. па-беларуску», аўтарства нейкага шарлатана ад мовазнаўства Віктара Мухіна.

Са зьместу гэтай бруднай падзелкі вынікае, што нібыта «ў беларускіх адпаведніках няма нават сьледу таго бруду, што нясуць за сабою мацюкі». Адсюль аўтар выводзіць, што «беларускія адпаведнікі (мату – **Б.Т.**), утвораныя паводле вымаўленчай аналёгіі ад звычайных словаў (*зьвязда – зьвязьдзец*) альбо ад першых літараў (гукаў) расейскіх мацюкоў (х – ікс, j – ёт)».

Такім чынам, беларусу прапануецца замест *е..ать* казаць *ётаваць*, *е..ит твою мать – ёт тваю маць*, *х..й его знает – ікс яго ведае*, *х..й ё..анный – іксіла ётаваны*, *пи..да – зьвязда*, *пи..деть – зьвязьдзець* і г.д.

Такая тэорыя не вытрымлівае аніякай гістарычна-філялягічнай крытыкі і носіць цалкам валюнтарыстычны характар. Адзіным доказам слушнасьці сваёй тэорыі сп. Мухін прыводзіць старажытны фаліянт, на які ён выпадкова натрапіў у бібліятэцы Ўнівэрсытэту Культуры, рыхтуючыся да пераздачы заліку па гісторыі Беларусі. Са зьместу знойдзенага дакумэнту сумнеўнага паходжаньня вынікае, што падчас працы над першым выданьнем Бібліі на нагу слаўнага сына Полацку зваліўся друкарскі валік і Скарына дазволіў сабе непрыгожа вылаяцца на аднаго з вучняў: «Ёт тваю яць! Ты глядзі, што робіш, юс малы! Друкарскі варштат – гэта табе ня ер сабачы!» Пасьля чаго першадрукар агрэў небараку-вучня зьвяздой доктара мэдычных навук.

На гэтым гістарычнае сьведчаньне сканчаецца.

Аднак студэнту Мухіну, які жарсна прагнуў расквітацца са сваім прэподам па гісторыі, а заадно адхапіць экстэрнам ступень бакалаўра й падвышаную сьцяпуху, прыйшла ідыёцкая думка раздуць з гэтага сэнсацыю. Ён хуценька накатаў праект і адхапіў грант на штуку баксаў. Прычым у праекце заяўлена, што кніга выйдзе на фінскай паперы ў каляровай супэрвокладцы. Да падручніка будзе дададзеная аўдыёкасэта з практыкаваньнямі вымаўленьня навамату. У далёкаідучых плянах горамовазнаўцы Мухіна выданьне штотыднёвіка *Пытаньні беларускага лаяньня*.

Аднак нельга разглядаць гэтую забаву студэнта-троечніка як кур'ёз. Гэта – добра сплянаваная дывэрсія супраць усяго нашага народу (пагадзіцеся, буржуіны за так грошай вам не адсьцягнуць).

Сытуацыю можна зразумець, калі ўявіць, як катастрафічна затармозяцца мысьліцельныя працэсы ў людзей працы! Калі звычайны рабацяга замест звыклага: «Вазьмі тую х..віну, ё..ні па ёй той х...нюшкай і п...дзец» будзе доўга і мучыцельна падбіраць патрэбныя словы, губляючыся ў іксах, ігрыках і функцыях катангенсаў, вы ўяўляецце, што будзе? Стануць заводы й фабрыкі, ня высеюць азімыя, накрыецца вадародная рэакцыя ў фізыкаў-ядзершчыкаў, прэзыдэнт ня зможа абмеркаваць чарговы дэкрэт. Карацей, краіне – хана! Тут-та нас, цёпленькіх, за шкірку – і ў натаўскі палон.

Сапраўды меў рацыю клясык, калі сказаў: «Родная мова, ..ля, – заклад незалежнасьці!» Таму мы заклікаем усіх грамадзянаў, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны: будзьце пільныя! Калі вас нехта пасылае на ікс, пашліце яго на х..! ●

**Браніслаў Тарашкевіч**

# Новыя імёны для славянскіх народаў

Мы жывем паісьціне ў рэвалюцыйную эпоху, калі славянскія этнасы наносяць рашучы адпор сусьветнаму імпэрыялізму, калі працоўны б'е паказальнікі ВВП. Відавочнай прыкметай рэвалюцыйнага часу ёсьць зьяўленьне новых імёнаў, якія павінны выражаць дух вялікіх трансфармацыяў і неабмежаваную ўдзячнасьць народа новым лідэрам. Прыгадаем бальшавіцкія катаклізмы, якія падаравалі сьвету такія пэрлы як Леундеж (Ленин умер, но дело его живет), Даздраперма (Да здравствует Первое мая) і шмат іншага. Вось і мы не засталіся ў баку ад тэндэнцыяў, уласьцівых усім рэвалюцыям.

Недзе ў гістарычным мінулым засталіся такія экзатычныя славянскаму вуху імёны як Ізаўры, Марыяны і прынцэсы Дыяны. Цяпер бацькі называюць сваіх чадаў адпаведна духу рэвалюцыйнай сучаснасьці. Прапануем вашай увазе колькі імёнаў, якія ўсё больш сустракаюцца ў беларускіх дзетак:

Лукел – ЛУКашэнка, ЕЛьцын
Лурыса – ЛУкашэнка, РЫнак, САцыялізм
Баген – БАцька – ГЕНій
Лухач – ЛУкашэнка – ХАкейны Чэмпіён
Рылык – РЫгорыч – ЛЫжны Кароль
Гепа – ГЕрой ПАсяўной
Зубястра – Зьбярэм Ураджай БЯз СТРАтаў
Шпузя – Шклоў – ПУп ЗЯмлі
Юберас – Югаславія, БЕларусь, РАСея
Амыпра – Адзіная МЫтная ПРАстора
Прэзык – ПРЭЗЫдэнцкая Канстытуцыя
Рылепрэз – РЫгорыч – ЛЕгітымны ПРЭЗыдэнт
Бес – БЕражы Сьвятло
Усеян – УСЕвалад ЯНчэўскі
Хрінма – ХРушчова ІНга – МАладзец
Чэжур – ЧЭсны ЖУРналіст
Сэлена – СЭЛЕктарная НАрада
Малпа – МАЛады ПАтрыёт
Натахер – NATO – Хер!
Лулюпрэз – ЛУкашэнка – ЛЮбімы ПРЭЗыдэнт
Белапрэл – БЕЛАрускі ПРЭзыдэнт Лукашэнка
Навебац – НАрадзіўся ВЕрыць БАЦьку
Лупан – ЛУкашэнка не ПАмрэ Ніколі

Падрыхтавалі:
**Рэфэрэндум Рэзанансавіч Іваноў**
**Дажынка Дэкрэтаўна Забродзкая**

# Millenium

## Хто стане Лепшым Беларусам тысячагодзьдзя?

Усё бліжэй і бліжэй надыходзіць канец другому тысячагодзьдзю. Увесь сьвет падбівае ачкі пройдзенай чалавецтвам дыстанцыі. Хто ж быў самым крутым футбалістам тысячагодзьдзя, хто лепшы баксэр-касталом, хто больш за ўсіх выпатрашыў кішак зь мірных грамадзянаў? Вось якімі пытаньнямі задаецца зараз усё чалавецтва.

Што ж, ня будзем лапухамі й мы. Наша зямля таксама можа пахваліцца сваімі Джэкамі-патрашыцелямі й першадрукарамі. Таму газэта *Навінкі* прапануе сваім чытачам вызначыць, а хто **ЛЕПШЫ БЕЛАРУС ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ** ?

Напрыклад, Усяслаў Чарадзей можа даць фору любому чужынскаму ваўкалаку; Францыск Скарына першы перадрукаваў пірацкім чынам Біблію (не забашляўшы ані шэкеля ейным аўтарам); Еўфрасіньня Полацкая, сэкссымбаль XI стагодзьдзя, пацягаецца зь любой Алесяй ці Янінай. Нам ёсьць, з каго выбіраць. Дык да справы! Для вызначэньня «Лепшага беларуса» прапануем Вам наступныя намінацыі, якія падаліся нам найбольш істотнымі:

– найлепшы студэнт магілёўскага пэдагагічнага інстытуту тысячагодзьдзя,
– найлепшы прапаршчык Беларускай Вайсковай Акругі тысячагодзьдзя,
– найлепшы палітрук тысячагодзьдзя,
– найлепшы дырэктар саўгасу тысячагодзьдзя,
– найлепшы беларускі эканаміст тысячагодзьдзя,
– найлепшы змагар з карупцыяй тысячагодзьдзя,
– найлепшы хакеіст тысячагодзьдзя,
– найлепшы лыжнік тысячагодзьдзя,
– найлепшы сябар Расеі тысячагодзьдзя,
– найлепшы старшыня сэлектарнай нарады тысячагодзьдзя,
– найлепшы агульнанародна абраны прэзыдэнт тысячагодзьдзя.

Можна не сумнявацца, што людзі, якія перамогуць у гэтым конкурсе, будуць дастойнымі звацца лепшымі, сапраўднымі, шчырымі беларусамі. Таго чытача, які адгадае рэзультаты конкурсу ва ўсіх намінацыях, чакае памятны сюрпрыз.

Чакаем Вашых лістоў! ●




*Хто ж гэты Містэр Х, Лепшы Беларус Міленіюму?*

# Хіба гэта выглядае натуральна?









# Курэньне – гэта зьдзек над прыродай!




*Жывёлы з NAZARETH на схіле гадоў нарэшце вырашыліся наведацца «кудысьці на Ўсход»*

# Не старэюць душой вэтэраны

Мора піва, скуранкі з заклёпкамі і патлатыя рокеры – гэтак выглядае сёньня ўсенародна любімы фэст «Залаты Шлягер».
Не забываюць на Беларусі традыцыю сустрэч моладзі з вэтэранамі. Напрыканцы лістападу ў КЗ «Мінск» адбылася чарговая вечарына з цыклу «Залаты шлягер». Сотні студэнтаў і школьнікаў прыйшлі на сустрэчу з вэтэранамі ВІА NAZARETH.
У залі панавала цёплая, нават у нечым накалёная, абстаноўка. Радаснымі крыкамі сустрэла падрастаючае пакаленьне сівых вэтэранаў, аб рок-н-рольных подзьвігах якіх яны столькі чулі ў школе і дома. Лідэр ансамблю Дэн МакКафэрты сказаў са сцэны шмат цёплых словаў. На жаль, пашатляндзку ў залі разумеў толькі карэспандэнт *Навінак*, таму перад вамі абсалютны эксклюзіў.
МакКафэрты прыадчыніў заслону над цяжкім жыцьцём вэтэранаў рок-сцэны ў сёньняшняй Англіі. Тыя, хто некалі змагаўся за сьветлыя ідэалы сэксу, наркотыкаў і рок-н-ролу, сёньня вымушаныя весьці цяжкае жыцьцё. З раніцы яны адстойваюць непамерныя чэргі па віскі, а ўдзень вымушаныя граць у падземных пераходах і ўсходнеэўрапейскіх краінах, каб зарабіць сабе на існаваньне.
Скупая сьляза скацілася па шчацэ вэтэрана, калі ён узгадаў аб баявых таварышах, што пакінулі вялікую сцэну, ня вытрымаўшы ўціску дзікага капіталістычнага шоўбізнэсу. «Імёны AC/DC і URIAH HEEP навечна застануцца ў нашых сэрцах і сэрцах нашых нашчадкаў», – запэўніла старую гвардыю маладая публіка, хорам выконваючы ўлюблёныя хіты. На сьціплым банкеце ў сталоўцы «Старое русло» ўсе музыкі былі ўрачыста запісаныя ў піянэры беларускага рок-н-ролу.
У разьвітальнай прамове МакКафэрты падзякаваў арганізатарам фэсту «Залаты шлягер» за магчымасьць выступіць на адным узроўні зь «Песьнярамі» і Аляксандрам Саладухам. Як прызнаўся маэстра, ён зь дзяцінства гадаваўся на творчасьці Ўладзіміра Мулявіна, і для NAZARETH вялікі гонар выступаць на радзіме сусьветна вядомага рок-зубра.
На гэтым гістарычныя гастролі незаўважна скончыліся. Пакідаючы зямлю Беларусі, удзельнікі ВІА выказалі жаданьне вярнуцца сюды яшчэ раз, каб адыграць сольнік разам з М.Фінбэргам ●

**Глеб Га-Ношры**

# Новая місія агента 007

## Імпэрыялістам, каб наталіць свае драпежніцкія апэтыты, і ўсяго сьвету будзе мала

Не запрашай на гэты фільм сябра ці сяброўку, не купляй «орбіт», «поп-корн» ды «кока-колу» – гэта ня той фільм, на якім можна жэрці ці цалавацца. Гэта менавіта тое, чаго чакалі мільёны гледачоў ад каўкаскіх гор да брытанскіх марэй. Такога фурору ў сьвеце не было з часоў апошняй «Зорнай ростані»: у чарзе па квіткі на прэм'еру эўрапейская культурная эліта стаяла па некалькі сутак.
Сэкс-сымбаль 70-х, выратавальнік сусьвету, паштоўкі зь якім можна ўбачыць у кожным сьвінарніку нашай краіны побач з выявай «проста Марыі», Джэймс Бонд вяртаецца на блакітныя экраны. Пагоні, перастрэлкі са стынгераў і крутыя мачылавы «шафа на сьценку» – усё гэта кожны з вас зможа ўбачыць у новым поўнамэтражнам супэрпорна-баевіку «Усяго сьвету мала».
Завязка фільму адбываецца вакол касьпійскай нафты. Знойная брунэтка, спартсмэнка і проста прыгожая азэрбайджанка ўступае ў няроўны бой з расейскімі мафіёзамі, якія размаўляюць, згодна з крыкам апошняй моды, на расейска-амэрыканскай трасянцы. Невядома, што было б з прыгажуняй, калі б ня наш герой, але пра гэта пазьней.
Марсо, як маці-гераіня, корміць нафтай увесь Захад. Нафтаправод, аднак, ідзе ў абход Расеі – ідэя цалкам зьлізаная з праекту Балтыйска-Чарнаморскага калектару – што вельмі не падабаецца братушкам з крамлёўскай групоўкі. Менавіта яны, каб падарваць прэстыж фірмы, абільна разбаўляюць нафту ясьлівай мачой, якую ім пастаўляюць астраханскія браткі.
Захад на грані эканамічнай катастрофы: ангельская прынцэса губляе прытомнасьць у пробцы на дарогах Лёндану, патэнцыйны нямецкі бюргер ня можа даехаць да свайго брата на піва, працоўныя аўтазаправак Заходняй Эўропы страйкуюць з-за антысанітарных умоваў на працоўным месцы, таксыкоз і атручваньня прымаюць памер эпідэміі, экалягічная сытуацыя і стан транспарту дасягае крытычнай кропкі і...
І вось на экране зьяўляецца ЁН – высокі, стройны, трыццаці зь лішкам гадоў мужчына, пры спатканьні зь якім хочацца ўпасьці на калені і жэрці глебу. Ролю Дж. Бонда грае мачо-мэн Бронснан. Кажуць, што на ролю Бонда прэтэндавалі смаркуля Ды Капрыё, які нават адгадаваў шчаціну і пачаў піць піва. Нават былы баксэр Майк Тайсан згадзіўся нават абяліць скуру пад Бонда, але ж халодны нардычны тып Бронснан перамог сваёй мужнасьцю і джэнтэльмэннасьцю.
Ня гледзячы на тое, што Бонд ня рубіць ані слова па-азэрбайджанску, прыгожая нацыяналістка Марсо закахалася ў яго. Але ж Бонда, гэтага старога супэрмэна, хлебам не кармі, дай сьвет выратаваць. Кіляграмы залатых зубоў і прапоратыя шыны 600-х «мэрсаў» – гэта тое, што засталося на памяць маскалям пасьля візыту Джэймса. Да таго ж цяжка бадзяжыць нафту мачой, калі ў цябе цэляць з базукі. Якасьць нафты ідзе ўгару, Захад па крыху ажывае. Але й на гэтым Бонд не затрымліваецца – усё альбо нічога! Бі маскалёў, бі мафіёзаў, ізноў пагоні, ізноў мачылава і... страсны пацалунак на хэпі-энд. А Бонд сядае ў крутую тачку і накіроўваецца ў кірунку заходу сонца.
Вы чакалі большага?.. У такім выпадку пераключыцеся на праграму Сяргея Дарэнкі ●

**Міхаіл Знаменскі**







# Знайкі ад відэа-бізнэсу

## *або «прывецік» барацьбітам за аўтарскія правы*

Быць відэапіратам апошнім часам становіцца ўсё складаней. Угар барацьбы за аўтарскія правы цалкам апантаў увесь расейскі шоў-бізнэс. Сваю лепту ў антыпірацкае пачынаньне вырашыла ўкласьці і Крысьціна Арбакайтэ.
Тое, што Крысьціна афігіцельная акторка, ніякіх сумневаў не выклікае. Дастаткова ўспомніць яе дэбют у мэлядраме «Чучело», дзе маладое дараваньне выканала ролю брытагаловага фаната-скінхэда. Відавочна, што гэтае малое пудзіла чакала кар'ера зоркі. Але, да клясавай радасьці ўсіх, каму не пашчасьціла нарадзіцца дачкой Пугачыхі або запалучыць у ложак жывога Прэсьняка, спрацавала старая ісьціна: багатыя таксама плачуць. У хаце Пугачовых зьявіўся сквалажны ойчым Кіркораў, і ўсё перамянілася, як паводле манавеньня чароўнага дрына. Другі тата рэгулярна глушыў горкую, тыраніў жонку і зьдзекваўся з пачаркі, патрабуючы грошай, паднятых Крысьцінай на сьціплым шоў-бізнэсе. Аднойчы непрасыхаючы тэнар заявіў, што сям'я магла б мець яшчэ больш бабак, калі б частку грошай, заробленых на стужках Арбакайтэ, не заначвалі акулы пірацкага відэа. Адразу ж быў распрацаваны экстраплян барацьбы супраць відэапірацтва, галоўным складнікам якога была лютая нянавісьць да народу, які гэтак любіць халяву, і апошнія дасягненьні НТР. Пробным шарам у барацьбе супраць махляроў стала сьвежасьпечаная пад патранажам Арбакайтэ другая сэрыя анімацыйнай вэрсіі «Нязнайка на Месяцы».
Калі каробка з мульцяшкамі трапіла да відэамахінатараў, у апошніх історгнулася пачуцьцё канца. На вокладцы фігуравала: «Внимание! Кассета записана с помощью специального лазерного луча. Копирование невозможно». «Вось і пісец нашаму гешэфту», – падумалася відэакарсарам. – «З такімі тэхнічнымі дасягненьнямі на Гарбушцы будзе закон і парадак. Нам прыйдзецца ісьці на панэль, а відэаспажыўцам біцца ў гістэрыцы, калі на «Відзьма-Нявідзіма» транслююць агляд навінак». Магчыма, гэтак і было б, калі б на дапамогу не прыскакалі народныя ўмельцы, якімі кішмя кішыць руская зямля. Майстры-самавукі ня толькі раскадзіравалі лазэрны прамень пры дапамозе звычайнага прасу, але й перапісалі «Нязнайку-2» так, што захочаш – не дагоніш, дзе арыгінал, а дзе фуфло. Днямі першая партыя «Нязнайкі» паступіла ў Менск. Залішне казаць, што нарадзілася яна з брутальным надругацельствам над усімі аўтарскімі правамі. Нам застаецца толькі глядзець фільм і радавацца майстэрству вялікай Арбакайтэ, якая выконвае ў фільме некалькі партыяў ●

**Валеры Меладзэ**

*ВыдАньні*

## «Гэта я, Адамчык». Post Scriptum




Нездарма выбітны беларускі літаратурны пірат Адам Глёбус чмырыў сваіх аўтараў за нядбайнасьць і раздалбайства! Сымбалем новай кніжкі Глёбуса ёсьць ейная вокладка – помнік без галавы. Вядома, дах у аўтара сарваны канкрэтна. Адам Глёбус ізноў выпендрыўся, упісаўшы на вокладку аж дзьве назвы, з чым узьніклі праблемы ў «прагрэсіўнай» інтэлігенцыі. У кнігарні пісьменьніка зараз нярэдка можна пачуць дыялёгі кшталту: «Дайце мне «Post Scriptum» – «Адвалі, маскаль, гэта «Кантамінацыі»!
(Самае цікавае – ніхто дакладна ня ведае, што такое «Кантамінацыі».)
Дарэчы аматарам крутога беларускага сэксу на гэты раз давядзецца шчыра расчаравацца. Чакаючы чарговых вычварэнстваў і новых адкрыцьцяў з «Кама-Сутры», на гэты раз чытачы набудуць усяго толькі сп'яну перакладзены і шырокавядомы цытатнік таварыша Мао.
Літаратуразнаўчая экспэртыза, праведзеная *Навінкамі,* цалкам пацьвердзіла папярэднія меркаваньні: нейкі Вавэнарг, на якога на кожнай старонцы спасылаецца Глёбус – гэта ніхто іншы, як Ульянаў (Ленін). А вось сабаку Каўцкага «Кантамінацыі» наракаюць то Арыстоцелем, то Гераклітам, то Шопэнгаўэрам, прычым ва ўсіх выпадках Глёбус зь імі нязгодны.
У працэсе цяжкіх пошукаў раптам выплыла знакамітая цытата Мао Цзэдуна, пераклад якой прымусіў выклікаць «хуткую дапамогу» двум асьпірантам і аднаму прафэсару лінгвістыкі. Фраза «Хай расьцьвітаюць сто кветак, хай квітнеюць сто ідэяў» у псэўдаперакладзе гучыць як «Прыемна займацца каханьнем у пакоі, калі ведаеш, што ў яго ніхто ня зойдзе».
Відавочна, што такое сам Глёбус ня мог напісаць нават пад інданэзійскай шыркай.
У некаторых сэмантычных радках, на думку беларускіх прафэсараў лінгвістыкі, уяўна праглядаюцца стыль і асаблівасьці творчай манеры Ўладзімера Адамчыка. Так што, не замахвайцеся на клясыкаў, спадар Адам Глёбус!

# ASTERIX


ГАЛІЯ
(Цалкам інтэгравалася з Рымам)
АБЭЛІКС ПЕРАМОГ
1 год да пачатку Новай эры. Паўсюль гаспадараць жаўнеры Першага Рыму. Палітыка пракуратара сустракае падтрымку сярод простых людзей.
Толькі ў адной глухой гальскай вёсцы мае падтрымку апазыцыя
Вёсачка ператварылася ў лягер для трэніроўкі баевікоў
І р-раз!
Даруй, братка, я трэніруюся


На кошках трэніруйся! Гэта ж апошняя баявая кляча ў нашым атрадзе!
Чаго наяжджаеш, Астэрыкс! Хіба забыўся як сам сьвяшчэннага казла рымлянам здаў!
Я ж ня ведаў, што ён за галаў
Ха! Пакажы мне хоць аднаго казла, які б падтрымліваў Рым!
Галам – свабоду! Далоў Цэзара-урода! Усе на Ход Волі!
??


ЦЭЗАРА У ДУПУ!
Хадзем, Астэрыкс, на мітынг, натрэм дупу легіянэрам
...Рым – гэта вайна! Рым – гэта галеча! Рым – гэта рабства! Далоў ганебную прысягу рымскаму імпэратару!
А вось, памятаю, пры нашэсьці германскіх плямёнаў галам добра жылося!
Жыве Галія!
Галія зноў мусіць стаць незалежнай барбарскай дзяржавай!
!


Легіянэры не драмалі
Легіён, зважай!
Галы! Вашае мерапрыемства не санкцыянаванае пракуратарам!


Не адкладна разыходзьцеся па сваіх халупах!
ПАКАЖАМ РЫМЛЯНАМ, ШТО МЫ – НАРОД! МЫ – НЯ БЫДЛА!
Гэтая глыба не з майго ганку, часам?
Таго, што на ўзгорку?.. Не, не з твайго
Во, таго таўстуна з камянюкай малюй! Улепім яму сутак 15 на дыбе!
Папаўся, гальская морда!
Я ня гал, я міма праходзіў!


Пачынайце зачыстку тэрыторыі!
Астэрыкс, ліняем!
Пранесла
А маглі б стаць рабамі сумленьня
Як тыя адмарозкі!